


Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны




№ 13 (274) ВЕРАСЕНЬ 2019 ГОДА

**БЕЛАРУСКІ АФАРЫЗМ**

*Самая вялікая хлусня – гэта хлусня маленькаму чалавеку*

*Андрэй Макаёнак*

ДЗЕНЬ ВЕДАЎ

# ПРАВІЛЬНАЕ І МІЛАГУЧНАЕ РОДНАЕ СЛОВА

**Ірына Міхайлаўна Салевіч — настаўнік беларускай мовы і літаратуры вышэйшай катэгорыі сярэдняй школы № 1 г. Гарадка. За выдатныя вынікі ў настаўніцкай працы жанчына заняла ў гэтым годзе сваё заслужанае месца на раённай Дошцы гонару.**

Правільнае і мілагучнае, роднае слова гучыць з вуснаў Ірыны Міхайлаўны кожны дзень. Жанчына прызнаецца, што заўжды любіла беларускую мову, а першым чалавекам, які адкрыў прыгажосць роднага слова, стала яе школьная настаўніца Марыя Іванаўна Верціхоўская. Менавіта дзякуючы ўплыву і добраму прыкладу свайго педагога Ірына Салевіч таксама вырашыла звязаць сваё жыццё з гэтай сферай. Будучая настаўніца паступіла ў ВДУ імя П.М. Машэрава і скончыла яго ў 2003 г. па спецыяльнасці «Беларуская мова і літаратура. Сусветная і айчынная культура».

Ірына Міхайлаўна ўпэўненая, што беларуская мова жыве і будзе жыць да таго часу, пакуль на ёй будзе размаўляць хаця б адзін носьбіт. Як бы там ні было, а да гэтага, на шчасце, яшчэ далёка. Настаўніца адзначае, што моладзь Гарадоччыны, з якой яна працуе, вельмі добра ставіцца да беларускай мовы, імкнецца вывучаць яе і ўдасканальваць свае веды. Вучні Ірыны Салевіч займаюць прызавыя месцы на алімпіядах і спаборніцтвах рознага кшталту. А ў гэтым годзе СШ № 1 зноў ажыццявіла набор вучняў у групу павышанага ўзроўню вывучэння беларускай мовы.

Ужо 16 год І.М. Салевіч працуе ў школе, аднак першы праведзены ўрок так і застаўся незабыўным успамінам.

— Як толькі я прыйшла працаваць у школу, мне адразу далі адзінаццаты клас. На перапынку вучні абмяркоўвалі мяне як новую вучаніцу. Толькі калі празвінеў званок, яны даведаліся, што я настаўніца, — узгадвае Ірына Міхайлаўна. — Першы ўрок быў вельмі хвалюючым. Мне здавалася, што ўсё прайшло добра. А сёння я магу сказаць, што там былі свае вартасці і недахопы, але гэта натуральна. Праца настаўніка — бесперапынны рух, пошук і вучоба. Дзеці хутка развіваюцца, а таму і мы не можам стаяць на месцы. Напачатку ў кожнага бываюць складанасці, але трэба ўмець прыслухоўвацца да заўваг, мяняцца і ўмець прымаць крытыку на свой адрас. Толькі так можна самаўдасканальвацца.

Настаўніца прызнаецца, што напярэдадні 1 верасня кожны год адчувае хваляванне. Першы ўрок — гэта своеасаблівая традыцыя, рытуал, які задае працоўны тэмп на будучы вучэбны год, усталёўвае кантакт паміж настаўнікам і вучнямі.

Сярод нязменных прынцыпаў працы Ірына Салевіч вылучае адказнасць, непарушнасць уласнага слова і ўпэўненасць у сваіх сілах. Не трэба баяцца зрабіць памылку, трэба толькі ўмець яе прызнаць і выправіць.

— Калі паставіць сабе гэта за мэту, то наладзіць добрыя адносіны можна абсалютна з любым вучнем. Безумоўна, усе дзеці розныя, а таму варта шукаць нейкі індывідуальны падыход да кожнага. З малодшымі класамі трэба быць больш мяккай, як маці, — усміхаецца размоўца. — А са старэйшымі важна ўмець своечасова пажартаваць і наадварот, стварыць працоўны настрой. Калі вучань схільны да тэхнічных навук, то варта даць такое заданне, якое ён будзе з задавальненнем выконваць. Напрыклад, прапанаваць яму зрабіць цікавы відэаролік пра знакавую асобу.

— Любая вучнёўская ініцыятыва павінна быць падтрымана. Мне здаецца, што працэс навучання грунтуецца на рэакцыі вучняў, а роля настаўніка — накіраваць свайго вучня ў правільны бок. На ўроках трэба вучыць разважаць, не баяцца выказваць свае думкі, а не проста прымаць на веру чыёсьці меркаванне. Напрыклад, урок літаратуры ніколі не можа поўнасцю супадаць са складзеным планам, бо думкі вучняў часам бываюць настолькі незвычайныя і цікавыя, што хочацца прасачыць за іх развіццём. Таму зняняецца і напоўненасць урока. Дзеці самі расстаўляюць акцэнты, — сцвярджае наша гераіня.

Апісваючы ідэальны ўрок, настаўніца адзначае, што ён павінен падабацца дзецям і быць карысным для іх, бо вучням неабходна вынесці з яго нешта новае. Ідэальны ўрок павінен вучыць дзяцей быць камунікатыўнымі, шчырымі, прымяняць атрыманыя веды ў жыцці. Увогуле ўрок, асабліва беларускай літаратуры, як лічыць Ірына Міхайлаўна, вучыць дзяцей жыць, бо разам з персанажамі яны могуць апынуцца ў розных сітуацыях і выбраць уласную мадэль паводзін.

— Мне вельмі прыемна, калі вучні гавораць «дзякуй» за тое, што даведваюцца нешта новае, вітаюцца па-беларуску, калі мае выпускнікі атрымліваюць «аўтаматы» па беларускай мове і літаратуры. А адзін хлопец, які вывучаў беларускую мову на павышаным узроўні, нават прысягу прымаў на роднай мове.

Нягледзячы на насычаны тэмп жыцця, Ірына Міхайлаўна адзначае, што вельмі любіць чытаць і падарожнічаць. Да таго ж часта атрымліваецца сумяшчаць карыснае і прыемнае — выязджаць у падарожжы ці турыстычныя паходы разам з вучнямі.

Галоўная парада ўсім настаўнікам, на думку Ірыны Салевіч, быць для вучняў сябрам пры любых абставінах. Нездарма кажуць, што ў настаўніка ёсць не толькі родныя дзеці, але і тыя, каго ён вучыць. Любы вучань пойдзе на кантакт, калі адчуе, што аб ім клапоцяцца.

— Мне здаецца, што я зараз на сваім месцы. І нават калі была б магчымасць, то не хацела б мяняць прафесію, — дзеліцца Ірына Міхайлаўна. — Думаю, што прафесія настаўніка, як і ўрача, — гэта тое, што даецца, як кажуць, ад Бога. Калі табе падабаецца працаваць з дзецьмі, калі ты іх адчуваеш, тады варта быць настаўнікам.

**Юлія РУДЗЯКОВА**
**http://www.garadvest.by**

**ЗНАЧНА БОЛЬШ НАВІНАЎ ПРА ГАРАДОК НА HARADOK.INFO**

БЯСПЕКА

# АДЗІНЫ ДЗЕНЬ БЯСПЕКІ НА БАЗЕ «АЗЁРНАЯ»

**Гіганцкі трохметровы белы мядзведзь, шоў мыльных бурбалак, шакаладны фантан у Адзіны дзень бяспекі ў Гарадоцкім раёне.**

На тэрыторыі Гарадоцкага раёна стартаваў Адзіны дзень бяспекі. Ратавальнікі сустрэліся з жыхарамі і гасцямі Гарадоцкага раёна на базе адпачынку «Азёрная», дзе для кожнага працавалі тэматычныя інтэрактыўныя пляцоўкі экстраных службаў горада па бяспецы жыццядзейнасці ў рамках Адзінага Дня бяспекі.

Госці і жыхары раёна з ўваходу на базу траплялі на інтэрактыўныя пляцоўкі экстраных службаў, якія працавалі у рамках Адзінага Дня бяспекі. Гэта былі такія пляцоўкі: «5 крокаў тваіго выратавання», «Праўдзі час з карысцю», «Апрананне баявога адзення», «Выратаваць страчаныя цацкі», «Экстранныя нумары», «АПА», «Выратаванне тапельца», а таксама маглі азнаёміцца з падрыхтоўкай аховы правапарадку.

Акрамя пляцовак Гарадоцкімі ратавальнікамі і раённым аддзелам унутраных спраў праведзены паказальныя выступленні па тушэнні пажару і затрыманню злачынца з дапамогай службовай сабакі.

Таксама на базе працавалі: мімы «прагульшчыкі», шоу мыльных бурбалак, гіганцкі трохметровы белы мядзведзь, фота будка, шакаладны фантан і многае іншае.

Усім удзельнікам і гасцям свята ратавальнікі яшчэ раз нагадалі пра бяспеку жыццядзейнасці дома, на працоўным месцы, у месцах адпачынку паблізу берагавой ліны вадаёмаў, у месцах з масавым знаходжаннем людзей і ўручылі наглядную выяўленчую прадукцыю.

**Л. Антонаў**
**https://vitebsk.mchs.gov.by**

ЗАЛА СУДА

# ПРЫСУД ЗА ЗБІЦЦЁ ЦЯЖАРНАЙ

**Гарадоцкі суд вынес прысуд за збіццё цяжарнай сужыцелькі паведамляе Гарадоцкая пракуратура.**

Зусім нядаўна ўступіў у законную сілу прысуд суда Гарадоцкага раёна ў дачыненні да трыццаціпяцігадовага жыхара Гарадка, які сістэматычна наносіў пабоі і збіваў сваю сужыцельку.

Так, у дачыненні да хатняга тырана пракуратурай раёна была распачата крымінальная справа па ч.1 ар.154 КК Рэспублікі Беларусь і для далейшага папярэдняга расследавання накіравана ў Гарадоцкі следчы камітэт.

Следствам устаноўлена, што на працягу доўгага перыяду часу мужчына пасля сумеснага распівання спіртных напояў з жанчынай падчас сварак, сістэматычна збіваў дзяўчыну, прычыняючы ёй пабоі і цялесныя пашкоджанні. Не спыніў яго і той факт, што любімая чакала дзіцяці. У адзін з дзён чарговага застолля, знаходзячыся ўсё ў тым жа п'яным чадзе, мужчына ў ходзе сваркі, што ўзнікла з асабістай непрыязнасці, нанёс заведама для яго цяжарнай сужыцельцы не менш за 2 удараў рукамі ў твар. Потым «рамеа» паваліў яе на зямлю, пасля чаго стаў наносіць ўдары нагамі па целе і руках. Далей гвалтаўнік утрымліваў жанчыну рукамі за твар і шыю, прычыніўшы сваімі дзеяннямі апошняй цялесныя пашкоджанні.

Трэба адзначыць, што мужчына і раней неадназова прыцягваўся да крымінальнай адказнасці, у тым ліку і за аналагічнае злачынства, аднак, належных высноў для сябе не зрабіў, на шлях выпраўлення не ўстаў, што і прывяло да здзяйснення новага злачынства.

У судовым пасяджэнні пацярпелая прасіла суд не караць любімага. Жанчына казала, што даравала яму, што вінаватая сама, маўляў, усяму віной яе выбухны характар, а без яго цяпер не ўяўляе свайго жыцця.

Суд Гарадоцкага раёна прызнаў мужчыну вінаватым у сістэматычным нанясенні пабояў, здзейсненым у дачыненні да заведама для вінаватага цяжарнай жанчыны асобай, якая раней была асуджана за катаванне. У адпаведнасці з ч.2 ар.154 КК Рэспублікі Беларусь, з улікам пазіцыі дзяржаўнага абвінаваўцы, суд прысудзіў да пакарання ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на тры гады з адбываннем пакарання ў папраўчай калоніі ва ўмовах строгага рэжыму.

**Л. Антонаў**
**Паводле: http://gorodok.vitebsk-region.gov.by**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

**************

Наша газета "Гасцінец" пачала размяшчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

**************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

АДУКАЦЫЯ

# ДЗЕНЬ ВЕДАЎ СТАЎ ПАДВОЙНЫМ СВЯТАМ

**Для хлапчукоў і дзяўчынак з г. п. Езярышча і навакольных населеных пунктаў Дзень ведаў сёлета стаў падвойным святам, па-сапраўднаму хвалюючым і запамінальным. Перад хлопцамі адчыніла свае дзверы абноўленая школа, у якой і вучыцца, і сябраваць напэўна будзе ў разы прыемней і камфортней.**

З гэтай радаснай падзеяй школьнікаў на лінейцы 2 верасня павіншавала кіраўніцтва вобласці і раёна. Да пачатку новага навучальнага года тут была праведзена вялікая праца. І сёння школа сустракае вучняў утульнымі светлымі класамі, спартыўнай залай.

Ва ўстанове адукацыі абсталяваны камп'ютэрны клас, абноўленыя кабінеты фізікі і хіміі, пачатковых класаў і зроблена многае іншае. Кардынальныя змены закранулі таксама тэрыторыі вакол школы.

У двары абсталяваная пляцоўка для вывучэння ПДР, куток для адпачынку і гульнявыя комплексы для дзяцей. Сапраўдны гонар школы — сучасны стадыён і пляцоўка для воркаўта, на якіх хлопчыкі і дзяўчынкі змогуць займацца на ўроках фізкультуры і ў вольны час. Галоўнымі дзеючымі асобамі ўрачыстага мерапрыемства сталі першакласнікі, а іх у гэтым годзе ў Езярышчанскай сярэдняй школе — 10.

Менавіта ім у першую чаргу адрасаваў свае віншаванні ганаровы госць мерапрыемства старшыня Віцебскага абласнога Савета дэпутатаў, дэпутат па Гарадоцкай выбарчай акрузе № 9 Уладзімір Цярэнцьеў:

— Яшчэ ўчора вы былі ў дзіцячым садзе, а сёння ўпершыню сядзеце за школьныя парты. Гэты дзень для вас — пачатак новага, ужо амаль дарослага жыцця. Мне сёння прыемна казаць пра тое, што дадзеныя жыхарам абяцанні мы стрымалі і нас сёння сустракае абноўленая школа.

Уладзімір Уладзіміравіч падкрэсліў, што кропку ў мадэрнізацыі Езярышчанскай сярэдняй школы ставіць яшчэ рана. У сувязі з гэтым ён звярнуўся да бацькоў, якія прысутнічалі на лінейцы, і адзначыў, калі ў гарпасёлке будуць нараджацца дзеці, школа будзе ператварацца і ўдасканальвацца далей.

— Дзеці — гэта будучыня нашай краіны, — звярнуўся да прысутных старшыня Гарадоцкага раённага выканаўчага камітэта Пётр Карабач. — Жадаю першакласнікам, якія ўваходзяць у новы свет ведаў, ўдачы і поспехаў, знайсці ў сценах школы сапраўдных сяброў. Выпускнікам жадаю за гэты год канчаткова вызначыцца з выбарам будучай прафесіі, а іх бацькам — цярпення і аптымізму, каб дапамагчы дзецям у гэтым нялёгкім выбары.

Хлопцы і ўстанова адукацыі атрымалі падарункі ад кіраўніцтва вобласці і раёна, ад абласной і раённай арганізацый ГА «Белая Русь». Услед за шчаслівымі і трохі збянтэжаным першаклашкамі ў абноўленую школу ўвайшлі старэйшыя школьнікі, іх бацькі і настаўнікі.

У новым навучальным годзе ім трэба будзе плячом да пляча ісці да перамог у нялёгкай працэсе навучання, браць усё новыя і новыя вышыні, каб даказаць, што ўкладзеныя ў рамонт школы і абнаўленне яе матэрыяльна-тэхнічнай базы грашовыя сродкі і праца не аднаго дзясятка чалавек недарэмныя і з часам акупяцца сто разоў.

Ганаровыя госці наведалі Езярышчанскай яслі-сад, які за лета таксама змяніў сваё аблічча. Работы праведзены ўнутры будынка і на тэрыторыі вакол него.

**Любоў Шляйко**
**http://www.garadvest.by**
**Пераклад на родную мову рэдакцыі сайта**

ЗДАРЭННЕ

# ЗАГІНУЎ КІРОЎЦА

**У аварыі ў Гарадоцкім раёне загінуў малады кіроўца мапеда.**

Смяротнае ДТЗ адбылося 31 жніўня каля пяці гадзін вечара ў раёне дома № 26 па вуліцы Цэнтральнай у вёсцы Зарэчча Гарадоцкага раёна. 35-гадовы мясцовы жыхар не справіўся з кіраваннем мапедам і выехаў у кювет, дзе ўрэзаўся ў дрэва. У выніку аварыі мужчына загінуў на месцы інцыдэнту.

На месцы ДТЗ праца-валі супрацоўнікі Дзяржаўта-інспекцыі і следча-апера-тыўная група.

Абставіны аварыі высвятляюцца, паведамілі ва УДАІ УУС Віцебскага аблвыканкама.

**Т. Гаражанка**

# ХИЩЕНИЯ В «БЕЛСОЮЗПЕЧАТИ»

**В Городке орудовала злоумышленница. Речь идет об организаторе розничной продажи предприятия «Белсоюзпечать».**

Эта женщина присвоила денежные средства и товары на общую сумму, превысившую 22 000 рублей, — рассказали в УВД Витебского облисполкома.

Понимая, что ее действия влекут уголовную ответст-венность, дама занялась другого рода преступлением — многократно вносила заведомо ложные данные о продаже товаров и обороте денежных средств.

Искаженную информацию она фиксировала в соответствующей докумен-тации — товарном отчете и кассовой отчетности.

Правоохранители устано-вили, что всего гражданка похитила товаров на сумму 6600 рублей. Кроме того, прикарманила и наличные деньги в размере 15 600 рублей.

Суд Городокского района признал фигурантку уголовного дела виновной и наказал лишением свободы сроком на 3 года с конфискацией имущества.

Также женщина не имеет право в течение двух лет занимать должности, связанные с организационно-распорядительными и адми-нистративно-хозяйственными работами.

**Новость с сайта: www.belnovosti.by**

ПРАВІНЦЫЯ

# ХОЛОМЕРЬЕ ХОРОШИХ ЛЮДЕЙ

**Чем манит зарубежных туристов Холомерье Городокского района? Почему скромная деревня в Городокском районе — магнит для иностранных туристов и как здесь без операций лечат болезни позвоночника.**

У границы с Российской Федерацией среди лесов и рек раскинулась деревушка с мелодичным именем Холомерье. От областного центра — более 100 километров, из Минска — все 300. Уютная, светлая, она встречает сентябрьским золотом садов. В любом дворе рады приезжим. А их здесь бывает немало.

**Больница последней надежды**

В прошлом «холомерьем» называли незаконную распашку, земельный «довесок». А в интернете я отыскала любопытную информацию: слово «холо» в некоторых языках переводится как «добрые люди». Что ж, пожалуй, именно такие тут и живут.

27-летний Константин Самарин, улыбчивый местный доктор, говорит, что после Холомерья в 8-й класс пошел уже в Лужеснянскую гимназию для одаренных детей:

— И знаете, ничем не уступал ребятам, которые пришли из витебских школ. Знаний, которые нам с одноклассниками давали в родной деревне, хватило, чтобы чувствовать себя уверенно.

Отучившись в медуниверситете, Константин вернулся к истокам. Местная больница — настоящая достопримечательность региона. Много лет ею руководит Михаил Самарин. Выходит, ген лекаря у Константина в крови. Не только отец, мама и бабушка молодого медика в свое время тоже связали судьбу с медициной:

— Половину времени занимает больница, а остальное — хобби: музыка. Если позволяет смена, на все выходные выбираюсь в Витебск, где в составе группы De Puta Madre Banda играю на ударных.

Местная больница — единственная в Беларуси из сельских участковых является юридическим лицом. Здесь, вдалеке от центра, занимаются лечением опорно-двигательного аппарата, в основном позвоночника. Лечащего врача Михаила Абрамовича большинство пациентов считает чуть ли не волшебником. Он давно и успешно проводит безоперационное лечение межпозвонковых грыж. Только на экспорте услуг здесь ежегодно зарабатывают около 60–100 тысяч долларов. В «больницу последней надежды», как ее окрестили благодарные пациенты, приезжают москвичи, петербуржцы и жители других уголков России. Михаил Самарин рассказывает:

— За помощью обращались даже из Японии и Австралии. При этом важно понимать, что учреждение здравоохранения в полном объеме выполняет все функции сельской участковой больницы. Наша основная задача — обслуживание своего участка, в который сегодня входят 680 жителей из более чем 30 деревень. В стационаре — 25 коек, из них 10 — медико-социальные.

Доктор Самарин во многом опередил время. К примеру, одним из первых в стране озвучил идею о необходимости создания геронтологического отделения. За поддержкой обратился к тогдашнему министру соцобеспечения. По сути койки, на которых в Холомерье размещают одиноких, нуждающихся в лечении пожилых людей, и есть воплощение этой задумки. Чтобы написать историю главврача из городокской глубинки, не хватит газеты. Как шутит Михаил Абрамович, однажды он засядет за мемуары. В них будет все. Как в 1978-м амбициозный парень из витебской семьи интеллигентов поехал на село за мечтой и самостоятельностью. Дальше — как он же поднял дышащее на ладан одноэтажное здание до больницы европейского уровня. А еще, пожалуй, о том, что основа всего — люди, которых нужно уважать и ценить. Сегодня Холомерская сельская участковая больница дает работу более чем 30 местным жителям. Для них построено 9 домов.

**Когда душа поет**

Чистые, словно криница, звонкие и яркие народные обряды живы в Холомерском крае. И, конечно, первые хранители традиций, в том числе уникального архаического голосового пения, — участники фольклорного коллектива местного сельского клуба. Его директор Нина Склименок и аккомпаниатор Татьяна Раева не дают сельчанам скучать. Настоящие «энерджайзеры», вместе с другими самодеятельными артистами клуба они выступают на концертах, приобщая к искусству детей и взрослых. Песни, танцы и сами обрядовые действия Татьяна Ивановна брала на карандаш во время многочисленных фольклорных экспедиций:

— То, что пели наши предки, — на века. Важно только вовремя подхватить их «голоса», не оборвать связь поколений.

В Центре традиционной культуры и народного творчества Городокского района готовят документы, чтобы включить самобытные свадебные песни региона в Список нематериального культурного наследия страны. Среди берущих за душу мелодий обязательно будут и холомерские.

**Тишина в плюсе**

Сегодня в Холомерье чуть более 200 жителей. Молодежи немного, но есть и настоящие патриоты родных мест. Например, Вячеслав Крутов, заведующий местным отделением КУСХП имени Свердлова. Более 30 лет прошло, как он перебрался в Холомерье из другого уголка Городокщины. Здесь встретил свою судьбу — красавицу Ольгу:

— С детства хотел работать в сельском хозяйстве. Тут все идет размеренно, как по нотам, а душе спокойно и легко. Есть магазин, больница, лесничество, ферма, чуть ли не через день приезжают частники со своим товаром...

То, что дома и стены помогают, уверена фельдшер Оксана Миронова. Мимо ее дома нельзя пройти и не задержать взгляд на многочисленных малых архитектурных формах и радуге цветов. Муж хозяйки всей этой красоты Алексей Александрович в сезон трудится в больничной котельной. В летне-осеннюю пору у него другое любимое и притом прибыльное занятие. Ездит в лес за грибами и ягодами, зарабатывая живую копейку. В этом году только лисичек собрал килограммов под 500! Впереди — клюква. Местные леса и болота на диво щедры. Кто хочет остаться в плюсе, считает он, всегда найдет для этого возможности.

**Анна Наумова**
**Полностью тут: https://www.sb.by**

БЕЛАРУСЬ І РАСІЯ

# У ПОШУКАХ ЛЕПШАЙ ДОЛІ

**Маленькая пухнатая жывёлінка пясец, як вядома, заўсёды падбіраецца незаўважна, прычым з таго боку, з якога яго менш за ўсё чакаеш.**




У якасці прыкладу прапаную звярнуцца да праекту стварэння хуткаснай чыгуначнай магістралі паміж Мінскам і Масквой. Пасол Расіі ў Беларусі Дзмітрый Мезенцаў лічыць праект перспектыўным і ўпэўнены, што пошук інвестараў будзе паспяховым. Паводле словаў пасла, рэалізацыя праекта павысіць рухомасць працоўных рэсурсаў і адкрые новыя магчымасці для гуманітарнага ўзаемадзеяння ўнутры Саюзнай дзяржавы.

Што, акрамя плюсаў, можа несці ў сабе гуманітарнае ўзаемадзеянне? Цікавае пытанне, але адназначнага адказу на яго гісторыя не дала, бо віды гуманітарнага ўзаемадзеяння бясконца разнастайныя. Адна з крайнасцяў адлюстраваная на карціне мастака Васіля Сурыкава «Заваяванне Сібіры Ермаком». Паводле аналагічнай схемы развіваліся падзеі на амерыканскім кантыненце пасля таго, як еўрапейцы здолелі істотна «павысіць рухомасць працоўных рэсурсаў» пры дапамозе найноўшых дасягненняў у галіне караблебудавання.

Заявіць, што хуткасная чыгунка прывядзе да аналагічнага выніку, і горад-герой Мінск апануюць перасяленцы з горада-героя Масквы, я б не наважыўся. Хутчэй, мы станем сведкамі ўзмацнення міграцыі ў адваротным кірунку. Працэс гэты ідзе досыць актыўна, нягледзячы на стандартную хуткасць руху цягнікоў.

Беларусь сёння з'яўляецца не толькі донарам стабільнасці для сваіх неспакойных суседзяў, але і донарам працоўнай сілы для іх жа. Чым можна патлумачыць гэты кур'ёз? Не выключана, што першы від донарства існуе выключна ў галовах архітэктараў «беларускай мадэлі». Як казала мая першая жонка, «сам прыдумаў, сам і на памяць вывучыў». Суб'ектамі ж другога віду з'яўляюцца не архітэктары, а будаўнікі. Рашэнні пра пераезд яны прымаюць «ідучы ад жыцця», а не ад пажаданняў ідэолагаў.

Але калі Расія для Беларусі служыць рэцыпіентам працоўнай сілы, то для Еўропы — яна такі ж самы донар. У гэтай сувязі прывяду цытату, запазычаную з расійскай «Незалежнай газеты»: «Германія рыхтуецца абвясціць бязвізавы рэжым для ўсіх грамадзян РФ, маладзейшых за 25 гадоў. Гэты смелы крок стане працягам агульнай палітыкі Берліна на развіццё краіны за кошт замежнай працоўнай сілы. Ужо сёння ў Германіі можна атрымаць паўгадавую візу для пошуку працы ў гэтай краіне. <...> Мяркуючы па апытанням, ужо цяпер пакінуць Расію гатовыя каля 40% моладзі. Прадстаўнікі расійскіх ВНУ і працадаўцы шакаваныя планамі нямецкіх уладаў наконт расійскай моладзі»…

**Не выключэнне, а правіла**

Згодна з лютаўскім апытаннем Левада-цэнтра, выехаць за мяжу на пастаяннае месца жыхарства не супраць больш за 40% расіян ва ўзросце ад 18 да 24 гадоў. Гэта ў два разы вышэй за паказчык па выбарцы ў цэлым.

У Беларусі — свае паказчыкі. У апошні раз пытанне наконт жадання пераехаць у іншую краіну на пастаяннае месца жыхарства НІСЭПД задаваў у сакавіку 2016 года. Колькасць тых, хто задэкляраваў сваё жаданне пераехаць, не адрознівалася ад значэнняў папярэдніх гадоў і склала 41% супраць 50% тых, хто не жадае пераязджаць (29% ва ўзросце 18–29 гадоў супраць 77% старэйшых за 60 гадоў).

30 чэрвеня 2018 года на Рэспубліканскім балі выпускнікоў установ вышэйшай адукацыі афіцыйны погляд на праблему выказаў адзіны палітык: «Камфортныя стартавыя ўмовы для вас створаны. Пагадзіцеся, для спецыялістаў, якія яшчэ не праявілі сябе ў прафесіі, атрымаць першае гарантаванае працоўнае месца — гэта высокі давер. Вы гэта не разумееце і не зразумееце (яно цяжка разумеецца, калі яно ёсць). Калі яго няма — паглядзіце на сваіх замежных аднагодкаў — тады вы зразумееце, што такое першае працоўнае месца, і колькі маладых людзей яго сабе не могуць знайсці хоць бы за грошы, але каб быць карыснымі грамадству. Гэтая гарантыя азначае, што дзяржава дае вам першую рэкамендацыю. Усё астатняе залежыць толькі ад вас».

Вось так бачыцца праблема працаўладкавання маладых спецыялістаў на Захадзе і ў Беларусі з вокнаў Палаца Незалежнасці. Калі меркаваць па цытаце, шыбы ў гэтых вокнах выраблены з адмысловага шкла, якое выконвае ролю інфармацыйнага фільтра. Пра Беларусь яны прапускаюць толькі станоўчую інфармацыю, а пра краіны Захаду — толькі негатыўную.

Для палітыка, што засядзеўся на вышэйшай дзяржаўнай пасадзе больш за два тэрміны, жыццё ў прыдуманым свеце, дзе няма супярэчнасцяў, становіцца не выключэннем, а правілам. Чым гэта можа скончыцца, кожны ахвочы можа паглядзець, калі набярэ ў пошукавіку: «апошні выступ Чаўшэску». Быў такі выбітны сын румынскага народа. Больш за тры дзесяцігоддзі ўзначальваў ён Румынскую камуністычную партыю. Але маленькая пухнатая жывёлінка зноў падкралася нечакана, прычым з таго боку, з якога выбітны сын і яго верныя паплечнікі па партыі менш за ўсё чакалі.

**Як быццам нічога не адбылося**

Паводле англійскага гісторыка Арнольда Тойнбі, дынаміка цывілізацыі (яе ўзнікненне, рост, «надлом», заняпад і раскладанне) вызначаецца «законам выкліку і адказу». Адказнасць ж за фарміраванне адэкватнага адказу заўсёды ляжыць на «творчай

*(працяг на стр. 3)*

УЛАДАР

# ЛУКАШЕНКО НЕ ЗНАЕТ, ЧТО ДЕЛАТЬ…?

**Но подчиненные на совещании старательно стенографируют заклинания, будто всем ясно, как выкручиваться... Совещание, которое провел сегодня Александр Лукашенко, выглядит загадочным. Широкую публику пресс-служба президента накормила лишь крохами банальной информации. Между тем речь шла о ключевых вопросах — экономическом развитии и интеграции с Россией.**

«Я не единожды говорил, что этот и следующий — это годы особые — парламентских и президентских выборов. Мы сдаем экзамен. Поэтому везде мы должны подтянуться как следует», — сказал Лукашенко подчиненным.

Подтекст выражения «сдать экзамен» номенклатура понимает четко: нам всем желательно сохранить свои кресла.

**Перекос с зарплатами**

Если вдуматься, то логика странная: экономика должна заработать лучше, потому что впереди — выборы. Вообще-то у экономики — свои циклы, но ее в Беларуси традиционно подгибают под политические задачи, электоральные кампании.

Вот сейчас пошла накачка зарплат. Они, как отмечают экономисты, растут быстрее, чем производительность труда.

Что бывает потом, мы хорошо знаем по опыту 2010–2011 годов. Тогда к президентским выборам дали «всем по 500» (в долларовом эквиваленте), но через считаные месяцы рубль катастрофически обвалился, а инфляция по итогам послевыборного года составила 109%.

Теперь, учитывая горький опыт, правительство и Национальный банк такого обвала, вероятно, не допустят, но перекос так или иначе аукнется. И уж, конечно, вряд ли кто осмелится перечить президенту, который постоянно нажимает, чтобы заработки росли.

**У экономики нет дыхалки**

Между тем оснований, чтобы заметно поднимать доходы населения, нет. И не будет. Независимые эксперты с самого начала твердили, что планка в 4% роста ВВП на этот год нереальна. Теперь это вынуждены признавать и чиновники.

За семь месяцев экономика выросла только на 1,3%, годовой показатель, по прогнозу Исследовательского центра ИПМ, составит и вовсе 0,9%. Итоги пятилетки тоже окажутся провальными.

Более того, в перспективе эксперты предрекают столь же жалкие, черепашьи темпы, а то и рецессию. Внутренняя причина элементарна: экономика не реформирована. Она исчерпала ресурс восстановительного роста после кризиса, а на большее нет дыхалки.

«Беларусь — как семья, которая тратит больше, чем зарабатывает. Почему это происходит? Потому что половина семьи работает непродуктивно — мы говорим в данном случае о госпредприятиях», — так образно обрисовывает проблему глава представительства Всемирного банка в Беларуси Алекс Кремер….

**Министры стенографируют заклинания**

Однако и подписание, и тем более выполнение этой дорожной карты еще вилами по воде писано. В свое время Беларусь подписала программу с МВФ, чтобы получить кредит в 3,5 млрд долларов, но ряд пунктов не выполнила.

К тому же две электоральные кампании — это время, когда и без того консервативный руководитель государства менее всего склонен к экономическим пертурбациям. Да и после выборов вряд ли станет большим прогрессистом.

На сегодняшнем совещании глава государства, если судить по официальным отчетам, предлагал решения сугубо в виде заклинаний. И никаких механизмов: за счет чего? Но подчиненные на совещании молча и лихорадочно строчат в блокнотах, как будто им все ясно.

В частности, признав огромную зависимость от российского рынка и углеводородного сырья, Лукашенко заявил, что «главнейшая основная задача — диверсифицировать рынки сбыта, не потеряв доходность при продаже нашей продукции. Да, мы движемся в этом направлении, но очень медленно».

Точнее сказать, дело вообще заглохло. На Россию по прежнему приходится львиная доля нашей внешней торговли, а вот экспорт в страны ЕС за январь — июль обвалился аж на 18,6%.

Легко сказать — диверсифицируйте! Но наш неконкурентный товар Европе (да уже и Африке) сто лет не нужен. Не заставишь же его покупать под прицелом «Полонезов».

Нет, вообще-то бензин и солярку с руками отрывают. Но здесь подсуропила братская, как снова назвал ее сегодня Лукашенко, страна вливанием грязной нефти в жилы «Дружбы»…

…Но время не ждет. Ведь Москва, по сути, поставила условие: пока не подпишем бумаги по углубленной интеграции, не ждите благоприятного решения вопросов о цене газа, компенсации за налоговый маневр, кредитах.

Поэтому Минск, вероятно, еще немного поторгуется, попробует кое от чего отбояриться, а остальное подпишет в надежде, что самые неудобные пункты снова удастся замурыжить. Как это было блестяще проделано после подписания большого интеграционного договора с приложенной к нему дорожной картой в 1999 году.

Но Москва ведь тоже помнит те фокусы и наверняка будет дожимать по всем пунктам.

*(скарочана)*

**Александр Класковский**

**https://naviny.by**

## БЕЛАРУСЬ І РАСІЯ

*(пачатак на стар. №3)*

меншасці».

Аднак аўтаномнасць меншасці адносная. Далёка адарвацца ад сваіх сацыяльных каранёў яна не можа. У статычных, прымітыўных грамадствах здольнасць меншасці да творчасці абмежаваная. У такіх грамадствах кіруе звычай. Таму пры рэзкіх зменах умоваў жыцця, якія Тойнбі называе «выклікам», грамадства не можа перабудавацца і змяніць свой лад жыцця. Яно працягвае дзейнічаць так, як быццам «выкліку» няма, як быццам нічога не адбылося.

Ілюстрацыяй да базавых палажэнняў класіка цывілізацыйнага аналізу можа служыць Рэспубліка Беларусь. 1994 год мог бы стаць для яе пераломным, але не стаў, бо сярод 10-мільённага насельніцтва не ўдалося сабраць крытычную масу творчых людзей, здольных зразумець выклік і даць на яго адэкватны адказ. Але нават калі б такі адказ быў дадзены, ён не знайшоў бы большасці, што гатовая яго прыняць.

«Сучасны крызіс у Беларусі, — тлумачыць доктар філасофскіх навук Леў Крыштаповіч, — гэта не крызіс беларускага шляху, а крызіс, абумоўлены разбурэннем СССР і, як следства, дэзінтэграцыяй постсавецкай прасторы».

Быццам бы пэўная логіка ў гэтым ёсць. Але чаму разбурыўся «Саюз непарушны рэспублік свабодных»? Адказу на гэта пытанне філасаф не дае, што не перашкаджае яму звязваць будучыню Беларусі з яго аднаўленнем.

*(скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

## ГУЧНАЯ СПРАВА

# МАНАЛОГ БАЦЬКІ ЗАБІТАГА ВУЧНЯ

**Самая гучная справа года ў Беларусі — забойства настаўніцы Марыны Пархімовіч і вучня Сашы Раманава, якое адбылося 11 лютага ў Стоўбцах. Забойца, школьнік Вадзім Мілашэўскі, прысуджаны да 13 гадоў зняволення. Суд зрабілі закрытым, грамадства не пачула і не даведалася, чым кіраваўся злачынца.**

Сяргей Раманаў, бацька забітага Сашы, хадзіў на паседжанні, каб зразумець, чаму адбылася трагедыя. «За што ты забіў майго сына?» — гэтае пытанне ён задаў Вадзіму Мілашэўскаму, але так і не атрымаў адказу.

Ён дазволіў «Нашай Ніве» апублікаваць свой вялікі маналог. Тыя ж словы Сяргей Раманаў прамаўляў у судзе, гледзячы ў вочы забойцы свайго сына.

«У мяне была шчаслівая сям'я, быў цудоўны сын...

Мы з жонкай заўсёды стараліся правільна выхоўваць сваіх дзяцей. Заўсёды прыслухоўваліся да іх меркавання. Ніколі не прымалі чыйсьці бок, не разабраўшыся. Да дзяцей нельга звяртацца па метадзе «я начальнік, ты дурань». Дзяцей нельга біць і абражаць.

Дзеці, асабліва ў падлеткавым узросце, лічаць сябе асобамі. Дый гэта ўжо асобы.

Калі з імі не паводзіць сябе так, то спачатку яны перастаюць адкрыта размаўляць з вамі, потым ігнаруюць вашыя парады. А потым і зусім перастаюць паважаць вас. З дзецьмі трэба размаўляць на роўных і не павышаючы голас. Можа, таму ў мяне з сынам былі даверлівыя адносіны. Мы маглі размаўляць з ім на любыя тэмы. Ён вельмі любіў чытаць кнігі і, як я разумею, чытаў правільныя кнігі. Спачатку я яго вучыў таму, што сам ведаў. А потым ён вучыў мяне таму, што прачытаў у сваіх кнігах і даведаўся ў школе. Я з задавальненнем слухаў яго, а ён, адчуваючы гэта, з яшчэ большым задавальненнем распавядаў. Вось так мы жылі шчаслівай сям'ёй, будавалі планы.

І нішто не прадвяшчала бяды. А далей вы ўсё ведаеце, што адбылося. Яго больш няма. Яго забіў той, хто казаў, што сумна жыў, на 30%...

Мой сын хацеў жыць... І вучыцца, паступіць ва ўніверсітэт, як усе дзеці ў яго класе. Мой сын памёр у мяне на руках, я паспеў прыехаць да таго, як спынілася яго сэрца. І ўсе выйшлі, і засталіся мы ўдвух, я і мае дзіця. Тут, у зале суда, я перажыў гэта яшчэ дваццаць разоў.

Тут жа сядзеў той, хто гэта зрабіў. Ён жыва разглядаў сваіх былых аднакласнікаў. Часам пазяхаў, часам нават усміхаўся. У адказ яму ўсміхалася яго маці, усім сваім выглядам паказваючы, як яна любіць свайго сына. Такая прырода. Сляпая матчына любоў, якая часам калечыць.

А павінна быць і жаночая мудрасць, але ж няма. Мы па кішэнях не лазім і партфелі не правяраем, у нас так не прынята. Затое прынята, не ведаючы людзей, ацэньваць іх па «хадзе, па чорным шаліку, нацягнутым на твар, па высока задзёртым носе».

Цынізм? Вось і яе нашчадка, кажуць, падбешвала хада майго сына. Як кажуць, яблык ад яблыні. Тут яшчэ шмат можна казаць і пра тое, што калі да 30% ацэнкі свайго жыцця дадаць яшчэ 40% з бутэлькі, то жыццё грае іншымі фарбамі. Ды і настаўнікі з бацькамі не заўважаюць, можна і далей так працягваць. А калі і гэта перастае прыносіць задавальненне, то можна і ножык купіць. Тым больш, што ў Стоўбцах яго могуць прадаць любой малалетцы.

У адным партфелі: нож, петарды, малаток, цыгарэты, а часам і гарэлка... У іншым: кніга, яблык і дзве бутэлькі з вадой. У чым прычына такога адрознення? Бедная і багатая сям'я, як пішуць журналісты? Што за лухта? Мільёны бедных сем'яў выхоўваюць выдатных дзяцей.

Прычына ў адным! Прычына ў нізкамаральнасці сем'яў, безкантрольнасці дзяцей, у абыякавасці ў школе. Нават цяпер многія хваліце, чаму я не запатрабаваў кампенсацыю. Штосьці тут не чыста, мауляў. Я не магу ацаніць жыццё свайго дзіцяці ніякімі грашыма. А людзей толькі грошы цікавяць.

І вось у такім грамадстве мы жывем, у такія школы і калектывы ходзяць нашы дзеці. Дзяржаве шкада грошай на ахову дзяцей. Ды і на зарплату настаўнікаў, калі там практычна адсутнічаюць мужчыны педагогі.

Я лаўлю сябе на думцы, што ў канцы працэсу ў мяне яшчэ больш пытанняў. І яшчэ менш адказаў.

Чаму? Чаму мой сын ніколі не скончыць школу, не паступіць ва ўніверсітэт, не ўладкуецца на працу, не сустрэне дзяўчыну, не створыць сям'ю? Ніколі не ўбачыць сваіх дзяцей, а я не ўбачу сваіх унукаў?

За што ты забіў майго сына? Чым ён цябе раздражняў? Тым, што адрозніваўся ад іншых і хадзіў з высока паднятай галавой? Ты не адказваеш, таму што ты баязлівы і табе стала сябе шкада. Мяне не задавоrange адказы «я не памятаю», «я не хацеў» і «я не ведаю, чаму так атрымалася».

Я ніколі не змагу табе дараваць.

Ні табе, ні тваім бацькам.

І ты адкажаш, адкажаш за ўсё..."

**Улад Швядовіч**
**"Наша Ніва"**

## САМАГУБСТВА НАСТАЎНІКА

# "НАСТАЎНІК ЖЫВЕ Ў ІНТЭРНАЦЕ, ЯК БЕЖАНЕЦ З ВАЮЮЧЫХ КРАІН"

**Я не бачыў яго і не чуў пра яго. І калі б не ягоная трагічная смерць, пэўна, ніколі не даведаўся б, што ў Вілейцы быў такі настаўнік — Арцём Харашэй. Піша Анатоль Сідарэвіч, ідэолаг беларускай сацыял-дэмакратыі, перад навучальным годам ў «Нашай Ніве»**

З усіх каментароў, прысвечаных гэтай падзеі, якія я прачытаў на сайце «Нашай Нівы», вылучу адзін: «Вы можаце ўявіць у ЕС ці Канадзе, што настаўнік жыве ў інтэрнаце, як бежанец з ваюючых краін? Зарплаты настаўніка не хапае нават на арэнду жылля...».

Цяпер задам пытанне тым, хто чытаў трылогію Аляксея Талстога «Блуканне па пакутах». Колькі пакояў было ў кватэры маладога піцерскага інжынера Івана Іванавіча Цялегіна?

Гэтае пытанне я любіў задаваць інжынерам і тэхнікам славутага колісь «Інтэграла», якія, нібы студэнты, туліліся ў невялікіх пакоях па чатыры і нават пяць чалавек у «абшчазе» на вуліцы Казінца.

А яшчэ я любіў задаваць такое пытанне: што купіў на свой першы заробак сормаўскі рабочы Павел Уласаў з аповесці Максіма Горкага «Маці»? І ці можа нешта такое і ў такой колькасці купіць на свой заробак савецкі інжынер, настаўнік, лекар?

«Буржуазія пазбавіла свяшчэннага арэолу ўсе роды дзейнасці, якія да гэтага часу лічыліся ганаровымі і на якія глядзелі з багавейлівым трымценнем. Лекара, юрыста, святара, паэта, чалавека навукі яна ператварыла ў сваіх платных наёмных работнікаў».

Чытаючы ў маладыя гады гэтыя словы, я міжволі экстрапаляваў іх на савецкую рэчаіснасць. Маркс і Энгельс і падумаць не маглі, што ў Расіі, прыкрываючыся іх імёнамі, да ўлады прыйдуць людзі, якія будуць працаваць не на ўзвышэнне, а на паніжэнне чалавека, што ў буржуазных Канадзе і Штатах, у Нямеччыне і Францыі будзе больш сацыялізму, чым у «першай краіне пераможнага сацыялізму». Лекар і юрыст, інжынер і настаўнік там не туляцца ў «абшчагах», не жывуць у вясковых хатах, дзе ні водаправоду, ні гарачай вады, ні каналізацыі. Там мігрантаў з Азіі і Афрыкі ў такіх умовах трымаць нельга.

А яшчэ я любіў цытаваць Леніна: «Народны настаўнік павінен быць у нас пастаўлены на такую вышыню, на якой ён ніколі не стаяў і не можа стаяць у буржуазным грамадстве... Да такога стану спраў мы павінны ісці сістэматычнай, няўхільнай, настойлівай працай і над яго духоўным уздымам, і над яго ўсебаковай падрыхтоўкай да яго сапраўды высокага звання і галоўнае, галоўнае і галоўнае — над уздымам яго матэрыяльнага становішча».

Вось пра гэтае «галоўнае, галоўнае і галоўнае» ўвесь час забывалі і забываюць тыя, хто называлі і, пэўна, як міністр Карпенка, яшчэ называюць сябе камуністамі-ленінцамі.

Настаўнік царскай гімназіі мог сабе дазволіць паездку ў Берлін ці Парыж. І нават народны настаўнік (настаўнік пачатковай школы) Андрэй Лабановіч у царскі час жыў непараўнальна лепш за многіх калег у суверэннай і «еўрапейскай» Беларусі: у яго было гарантаванае жыллё пры школе, а старожка бабка Мар'я за ім прыбірала, яму гатавала і, пэўна ж, мыла кашулі ды спаднікі.

Звычайна ў рацыянальна пабудаванай сістэме дзейнічае такое правіла: я даю табе ўсё для твайго бязбеднага існавання, але патрабую ад цябе працы. У бальшавіцкай і постбальшавіцкай сістэме «еўрапейскай» Беларусі ўсё наадварот: я патрабую ад цябе працы, але не гарантую табе бязбеднага існавання. Не гарантаваўшы табе бязбеднага існавання, я патрабую ад цябе... Лепш не пералічваць, што цяпер патрабуюць ад настаўніка ды выкладчыка тэхнікума ці ВНУ.

Калі кажуць, што ў настаўніцкай прафесіі нізкі прэстыж, дык праблема не зводзіцца адно да матэрыяльнага становішча, пра якое пісаў Ленін. Праблема ў тым, што настаўнік бездапаможны перад сістэмай. Ён не можа паставіць вучню ацэнку, якая б адпавядала сапраўднаму ўзроўню яго ведаў, ён не можа даць яму заданне на лета, пакінуць на другі год... Ужо і студэнтаў у нас нельга пакідаць з «хвастамі» ды выключаць з ВНУ. Дармо, што яны не ходзяць на лекцыі і практычныя заняткі, не чытаюць у неаўдыторны час. Педагог бездапаможны перад няздарамі, гультаямі і нахабамі ды перад іх бацькамі. Мусячы выводзіць патрэбныя начальству балы, забяспечваючы патрэбныя начальству паказчыкі, педагог становіцца хлусам і пасмешышчам у вачах няздараў, гультаёў і нахабаў ды іх бацькоў. І ў пасмешышча, у вартага жалю чалавечка ён ператвараецца, калі змушаны хадзіць па дамах і кватэрах, выслухоўваць лаянку не заўсёды цвярозых бацькоў, складаць усякія паперкі.

Я не хацеў бы ўлазіць у палітыку, хацеў бы ўсё звесці да сацыяльных і маральных праблем. Але... Дакладна ведаю, што ў савецкі час настаўнікаў не любілі за прапаганду атэізму, асабліва тых двурушнікаў, хто таемна хрысціў дзяцей і нават не абыходзіўся без фарбаваных яек на Пасху. Не любілі за хлусню пра «самы перадавы на свеце лад», пра «самае шчаслівае жыццё», пра «самую перадавую навуку» і да г. д. Цяпер прапагандаваць атэізм ад педагогаў не патрабуюць, але многія з іх мусяць крывадушнічаць, хлусіць і апавядаць сваім вучням пра «беларускую мадэль», «сацыяльна арыентаваную дзяржаву», пра «мудрую палітыку»... не, не КПСС, а «ўсенароднавыбранага». А яшчэ мусяць сядзець у выбарчых камісіях і таксама крывадушнічаць і хлусіць. Але дэпалітызацыяй навучальных устаноў у нас і не пахне. Амаль усё як пры КПСС.

...Шкада, што Бацькаўшчыну, уцякаючы ад гэтай «мадэлі», тысячамі пакідаюць маладыя людзі.

Шкада, што некаторыя маладыя развітваюцца з гэтым няўтульным светам.

Мяккім пухам Табе зямля, Арцёме.

**Анатоль Сідарэвіч**
**https://nn.by/?c=ar&i=236336**

**Заснавальнік і рэдактар:** Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-5-08-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 15.09.2019 у 17.50**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.